НАСУСТРАЧ СЛАЎНАМУ ЮБІЛЕЮ - ШКЛЯНОМУ ВЯСЕЛЛЮ.

# ДУБРОЎСКІ НАСТРОЙ

№ 115

САКАВІК 2009г

НАРОДНЫ БАЯВЫ ЛІСТОК ДУБРОВА ЧЭРНІНСКАЯ ВОЛАСЬЦЬ ПАРЫЦКІ ПАВЕТ

## АПЕТЫТ РАСЬЦЕ.

Чым бліжай слаўнае 15годдзе прыходу да ўлады пастаяннага прэзідэнта тым болей большаюць ягоныя калхозныя апетыты. От і сёлета азіраючыся на дасягнутае ён запатрабаваў намалаціць дзевяць з паловай мільён тон збажыны. Пэўне, памятае нязьдзейсьненую савецкую мару, ідэю-фікс збожжавага дабрабыту- па тоне на душу чалавека.

Канешне, сваё збожжа- гэта добра. Але дужа ж насьцярожвае круты ўздым збожжавытворчасьці пры крутым заняпадзе беларускай вёскі. Акрамя бляяння пра сямізначныя лічбы зярнят хацелася б пачуць, як тыя зярняты паўплываюць на дабрабыт вяскоўцаў, якім сабекоштам яны абыйдуцца, якой якасьці будзе зь іх мука.

Цэны ў Беларусі большыя за еўрапейскія. То ці варта так пхацца ў безразважную аўтаркію? Ці не сьлед было б купіць частку якаснай збажыны на сусьветным рынку? І шчэ непакоіць: які ланцуг радыёнуклідаў, што непазьбежна патрапяць у збожжа з «падчышчаных» але па-ранейшаму мурзатых прычарнобыльскіх палёў. Не сьлед заплюскаць на тое вочы.

Дыктатар калхозьнік і мысьліць па-калхозна-савецку. І задачы ставіць па - савецку. На добры ж лад ніхто сялянам не павінен ставіць задач і спускаць ім цьвердаватае ці ўкрутую заданне.

Дыктатар з маніякальнай настойлівасьцю ставіць «аграмястэчкі». Часта гэта папросту добры «аграплот» ды «аграрамонт» занядбалых пабудоў. Вунь колькі іх у Дуброве, у Вяжнах, у Гамзе....

Пры дыктатуры німа такіх шалёных планаў, якія б не выканала сервільнае начальства. Нават хоць бы і на паперы.

Таму кажын беларус можа спаць спакойна: сёлета і налета голад ягонага бруха будзе ўтаймаваны акрамя імпартных харчоў- дзякаваць Богу за крах камунізьму! - шчэ і калатушаю з айчыннай збажыны. А калі ў калатушы разам з збожжам патрапіць і шматок паперкі, выплюньце. Гэта не ад дыктатара, а ад ягоных функцыянераў-прыпісчыкаў. Раней усе варажылі- «хто яму мяшае». Мешалка, то бо клюшка, мяшае.

Юбілейнаму году- юбілейны ўраджай!

## ЧАКАЮЦЬ...

Болей за месяц німа адказу з іньсьпекцыі па працы дуброўскім працоўным. Яны пажаліліся на калхоз за тое, што як пры прыгоне гаравалі звышнормы, а платы за гэта не атрымалі ніякай.

І хоць ліст іхні быў скіраваны заказны, то бок малавера-годна, каб «згубіўся», усёадно з той іньсьпекцыі ні зыку.

Хлопцы ўпарта чакаюць.

Яны падазраюць, што ў дачыненні да іхняй скаргі існуе змова між калгасным кіраўніцтвам і той іньсьпекцыяй.

Так гэта ці не, але ўсё адно абуральна. Той, хто мусіць быць на варце працоўнага заканадаўства ігнаруе парушэнне таго заканадаўства.

У такой сітуацыі працоўныя абсалютна безабаронныя ад сваволі працадаўцы. Таму што прафсаюзу, натуральнага абаронцы працоўных, не існуе (тое, што яны называюць «прафсаюз» гэта папросту «Працоўны Фронт імя Роберта Лея»). Самі мужыкі пабойваюцца паварушыць іньсьпекцыю, апасаючыся начальскага гневу.

А дарма. Гнеў працоўных заўсёды масьнейшы....

## СКАРОЧАНАЯ ПАМЯЦЬ

Як кажуць, у ведзьмаў можна не верыць, але тое, што яны ёсьць- гэта дакладна. Надышла пара- і хутка! - перақанацца ў тым, што ў краіне пастаяннага квітнення і ўсяго добрага да поўнага шчасьця не хапае дробязі: грошай. Кажын па сваёй кішэні бачыць, што яна памялела.

Убачыў гэта і многаразовы ўсенароднаабраны прэзідэнт Беларусі. Апярэджваючы гідкія і недарэчныя пытанні наконт заробкаў і пеньсій ён заявіў, што не абяцаў падвышкі ні таго ні другога. Маўляў, вас падманілі, маўляў, зьвяртайцеся да таго, хто вам гэта абяцаў, а той абяцальнік хлус. Словам, вукручуваўся, як мог.

Маніць дыктатар. У Беларусі ёсьць толькі адзін распарадчык казны, адна крыніца дабрабыту і шчасьця, ледзяных палацаў і аграмястэчак, атамных электрастанцый і пляцовак да іх, адзін начальнік парадзіх і курэй-нясушак, словам, усяго адзін усяго-ўсяго на сьвеці. Люд беларускі гэта ведае. Таму і рост ці немач заробкаў і жабрачых пеньсій зьвязвае з здароўем, добрым гуморам ці хакейнымі дасягненнямі свайго дабрадзея. І вось на табе! Такі задні ход.

Панове, за пахвальбою дажынкамі і цудадзейнымі якасьцямі жыццядайных высокапасадных геніталій неяк забыліся пра пра ямы, балоты, сучча і спатыканне жыцця. Жылі сённяшнім днём. І калі прыйшлі гады худых кароў, аказалася, што для нашай Радзімы як бы і не было гадоў кароў сытых.

Замест таго, каб чэсна заявіць- а нікому гэта не таямніца- што мы перажываем паганы перыяд, што застой, а то і спад у даходах і дабрабыце немінучы дыктатар працягвае гуляць у звышчалавека і міфічную крыніцу ўсіх даброт. («Я вам не абяцаў...»). Выходзіць, наш камфорт залежыць толькі ад яго, ад таго паабяцае ён нам яго ці не.

З аднаго боку гэта яўная дыктатура, а з другога - маніпуляцыя сведамасьцю людзей.

Добра чыняць тыя, хто не слухае шаманскіх воклічаў, не чуе і не бачыць яго і не дзеліцца ўражанням ад ягоных заклінанняў з знаёмымі і суседзям.

Беларусы! Прышла вясна.

Ваш агародчык- падмурак вашай харчовай бясьпекі.

Цягніце на грады гной, самі спаражняйцеся на сваіх градах, запрашайце суседзяў.

Рыхтуйце рыдлёўкі, граблі.

Купляйце гатунковае насенне. Памажыце самі сабе. Тады і не давядзецца енчыць, што «ён падманіў».

Не верце, дык і не падманіць. А схлусіць можа: хлусім мы патроху ўсе.

**ВІНАВАТЫЯ.**

Але колькі ні кажы, што крызісу няма, а кашалёк і крама паказуюць іншае. Дык на каго ж скіраваць народны гнеў, хто той грамаадвод? І дыктатар звычна выцягвае тое, што даўно выклікае адно -асцу. Прыдумаўшы некалі «вашывых блых» і «атмарозкаў» -хоць ты патэнт бяры!- дыктатар выстаўляе тыя абстрак тныя істоты як галоўных вінаватых у няўдачах.

А справа не ў тым, каб знайсьці вінаватага, а як латвей паладзіць дзяржаву, працу, даходы, спажыванне. Нажаль нічога -ніякага на гэты конт улада не кажа. Набяруцца крэдытаў, раздадуць банкрутам, а народу крычаць, «працаваць трэба». Народ працуе так, як арганізуе ўлада.. А вось як улада працуе- гэта рэч іншая. Некалькі дзесяцігоддзяў улада працуе страшна неэфектыўна. Але корміцца спраўна. Далей. Хоць народу абрэзалі заробкі і пеньсіі праз 20% дэвальвацыю, начальству страты адразу ж кампенсавалі, падвысіўшы ім жалуванне.

Увесь небут і атхлу крызісу ўскінулі на «вашывых блых». На кожнага з нас.

---

## МАЛОЙЦЫ ПРЫСКАКАЛІ.

Мухі ляцяць на гаўно, а чыноўнікі з МВФ-Міжнароднага Валютнага Фонду, запомніце гэты скарот-на крызіс. Там, дзе зьяўляюцца гэтыя малойцы, там падціскаюць народ, а чыноўнікі радуюцца. Наш дыктатар не любіць амерыканцаў, то праўда, але гэны фонд пад амерыканскім кантролем, бо грошы іхнія, таму як стала туга, то і да амерыканцаў кінуўся: голад не цётка.

Грошы МВФ дае пад бездыфіцытны буджэт. Так што ніякіх падвышак пенсій і заробкаў не чакайце. Усё зрэжуць. Толькі чыноўнікаў не зачэпяць. Найперш пацерпяць адукацыя, медыцына, культура. Словам, самыя кволыя і нядужыя. Крайнія.

## ДАЗЬДЗЕКУВАЛІСЯ.

Самавітая жанчына з Салігорску Яна Палякова за нешта неўпадабала цяперашні беларускі рэжым. Яна як магла супрацiўлялася ненармальным парадкам у нашай Беларусі. І так гэтая жанчына абрыдзела рэжыму, што суддзі засудзілі яе на пару год «хіміі».

Жанчына справядліва палічыла гэта зьдзекам і абразай. Сваім знаёмым яна сказала, што не будзе палоннай рэжыму і скончыла жыццё самагубствам. Па сутнасьці міліцыя і суд давялі жанчыну да гэтага і згодна з законам мусяць адказваць крыміна - льна.

Сябры падалі ў суд на міліцыю па артыкулу «Давядзенне да самагубства», але суд не прыняў аніякай заявы.

Так гэтая ўражлівая і годная жанчына пайшла з гэтага сьвету, а ейныя забойцы беспакараныя.

У такіх таталітарных рэжымах такія выпадкі- рэч зразумелая.

У такіх рэжымах дзейнічаюць два правілы, ствараючы заганнае непарыўнае кола. Цьвёрда вывучце і паўтарайце гэтыя правілы, яны вам памогуць разабрацца ў жыцці.

1. **Сябрам- усё, ворагам- закон.**

2. **Наср..ць мне на закон.**

Такім чынам, пачынаючы калоцца ў рожкі з начальствам, уласьцю, прыкіньце, хто чый каму сябар і хто вас абараняе. Барані вас Божа, калі ў вас іёе толькі закон, але німа сяброў.. У Яны былі сябры, але не тыя Таму і зацкавалі жанчыну.

## ДАНЯЎ.

Неяк спаткаўшыся між школай і манаполькай разгаварыліся двое мужыкоў-пеньсіянераў пра жыццё і тэлевізарнае быццё.

Папляваліся, пажаліўшыся адзін аднаму на брыдкія расейскя шовы з голымі дзеўкамі. А як узгадалі на прэзідэнта з самазваным пераемнічкам-спадкаемцам, дык наогул адзін з іх сьліною пырскаў ад абурэння. Другі толькі суладна ківаў галавою, ды паўтараў «усё ў руцэ Божай».

Скончыўшы з Міколкам перайшлі да тэмы карупцыі.

І старшы з пеньсіянераў расказаў выпадак Вольгі Пятровай, як баба езьдзіла на прыём да шацілкаўскага сталаначальніка, як той пасадзіў яе ў кабінеце, нешта пазірнуў у шуфляду і выйшаў. І так ён у тую шуфляду зазіраў і выходзіў, пакуль кабета не здагадалася пакласьці ў яе апошнія 20.000 руб, на білет на пасажырку беражыла. От тады сталаначальнік прысеў і пачаў гамонку.

Дома жанчына падзялілася досьведам і ўжо наступныя дуброўцы ехалі на прыём не з нішчымнымі рукам.

«І ўсё гэта ён разьвёў», абураўся мужчына, верачы, што суразмоўнік ведае, хто такі той «ЁН». Потым ён паінфармаваў, што не глядзіць беларускага тэлебачання з-за «ЯГО» і вельмі шкадаваў, што німа праграмы на талеркавае тэлебачанне.

Гэта небясьпечны мужык: ён сее незадаволенасьць існуючым ладам у Беларусі. Чысты апазіцыянер.

## ШЧАСЬЦЕ БЫЦЬ ПЕНЬСІЯНЕРАМ.

Небагата часу таму выйшла пеньсію шанаваная дуброўцамі Бусел Марыя Мікалаева, ветэрынарны хвершал.

Усе ведаюць яе па-народнаму- Маня Залка, бо сама яна з Залля. Салодкім ейнае жыц цё не назавеш: рана стала ўдавою, былі праблемы з сынам, калгасны лад не twix, але Маня стаяла за праўду, як той Лютэр на царкоўным саборы:»На тым стаю і не ма гу іначай». Яна заўсёды памагала парадаю і справай пры праблемах з жывёлай, за што яе і шануюць. А яшчэ дорага паслухаць ейныя каментары па розных жыццёвых пытаннях. Тут Марыя кажа голую праўду простымі і энергічнымі словамі, узятымі з народных глыбінь. Працоўны калектыў годна правёў яе на заслужаны адпачынак: прафкам наскроб грошай і ўганараваў яе мікрахвалевай плітою.

Здароўя табе і доўгага жыцця, наша Марыя.

Сябры і аднавяскоўцы.

ПАЙШОЎ АД НАС
добры беларус,
прыязны чалавек
**Сівалап**
Васіль Зьмітраў
Хай яму будзе мяккай
родная зямелька.

ПАЙШЛА АД НАС
добрая беларуска
**Русіновіч**
Надзя Нічыпарава
Хай ёй будзе пухам
родная зямелька.

Друкарня імя І. Масьціцкага
наклад 100 ас.

# АПАКАЛІПСІС ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Тэма атамнай вайны, атамнай электрастанцыі і ядзернай бясьпекі не чужая для Беларусі. Ўвесь пасьляваенны час беларускіх школьнікаў на плакатах рыхтавалі да ядзернай вайны. На плакатах было ўсё: належнае апавяшчэнне пра ядравую пагрозу, сродкі індывідуальнай і калектыўнай абароны, розныя сховaнкі. Але не было таксама асноўнага: куды ж выйдзе ўратаваны чалавек з схованкі? Што ён убачыць і чым яму займацца? Пра тое, што выйдзе ён, калі ацалее, ў атручаны сьвет, дзе і вада, і паветра, і зямля, і расьліны з жывёламі і рыбамі інвалідамі- калі ацалеюць - будуць таксама атручаныя, пра гэта плакаты справядліва маўчалі.

Чарнобыльская катастрофа паказала хлусьню не толькі ўсёй гэтай прапагандовай ідыліі, але й гніласьць савецкай таталітарнай фашысцкай сістэмы. Ад самай першай секунды «родная» савецкая ўлада пачала хлусіць. То бок забіваць праўду, што ў такіх умовах значыла забіваць людзей. Чарнобыль паказаў: ні да якай ядравай вайны савецкі таталітарны рэжым не быў гатовы ні маральна ні матэрыяльна.

Чарнобыль напалохаў сьвет і падпужаў беларусаў. Але Беларусам непашанцавала: іх дзяржаву ўзначаліў адважны да бязглуздзіцы дыктатар. Сьпярша ён таксама напусьціў у порткі , таму і заявіў, што без згоды народу ніякіх атамных электрастанцый будаваць не будуць.

Але мінаў час. За 15 год - болей за Адольфа Алаізавіча Гітлера!- праседзеўшы ў Драздах і назапасіўшы народнай благадаці, дарэчы, накрадзенай на псеўдавыбарах-дыктатар, як і ўсе дыктатары, гэта іхняя прафесійная хвароба- страціў багата людзкіх пачуццяў і ўспрыманняў і пачаў абрастаць боскімі функцыямі.

Зараз ён думае за народ, судзіць народ, вырашае ягоны лёс.

Пасьля дробязі і драбніц, кшталту ледзяных палацаў захацелася нечага велічнага і страшнага. Не прыкінуўшы эканамічных патрэб у перспектыве, не параіўшыся з народам дыктатар вырашыў будаваць атамную станцыю.

Дзе яе будаваць-ніхто не ведаў. Саўкаліся па ўсёй Беларусі, зьбіраліся ставіць яе дзесьці на ўсходзе Беларусі. Але тут зараўлі маскалі. Ім недаспадобы беларускі мірны атам пад сваім бокам. Дыктатар-карачкаход -(«я на карачках папаўзу ў Расею»)- паслухмяна пацягнуў будоўлю на захад Беларусі, у Астравецкі раён.

**ТРЫ НЕБЯСЬПЕКІ.**

У чым небясьпека? **Першая** ў тым, што вятры ў нашым паўшар"і дзьмуць з захаду на ўсход і радыяцыя з гэтай станцыі можа прашараваць усю Беларусь ад краю да краю.**2.** Небясьпека і ў тым, што дыктатар, павіляўшы хвастом, бярэ самы ненадзейны, расейскі праект. Адначасна ён жа бярэ і іхняе паліва,цяпер Расея шантажуе газам, а будзе шантажаваць уранам

Далей, як будуюць пры дыктатуры мы ведаем. Пры ўсеагульным падхалімстве і сервілізме будавацьмуць не так, як патрабуюць строгія правілы, а як укажа дыктатар. (Некалькі год таму ён указваў, як рамантаваць камбаі. Сам жа горка пакрыўдзіўся, што выйшла горш, чым калі-небудзь раней.) То німа ніякай упэўненасьці ў надзейнасьці ці то расейскай тэхналогіі ці то беларускай будоўлі.

**Трэцяя пагроза.**

Дыктатар- паталагічны хвалько і маней. Прапагандысцкая ўлада такая ж самая. Вядома, без пэўных гіпербал-перабольшанняў ні ў жыцці ні ў палітыцы нельга. Але нацыянальная пагроза-выпадак асобы. Ці ж можна быць упэўненым, што ў выпадку няшчасьця ўлада хутка і талкова скажа народу праўду? Зважаючы на сённяшні стан улады няма ніякай упэўненасьці ў яе чэснасьці. Усе мы могам стаць ахвярамі і атаму і хлусьні.

**ДУРНАЯ РАДАСЬ.**

Пакуль што астравецкія мужыкі даволныя: яны маюць працу і заробкі. Але гэтая задаваленасьць дужа падобная да ВЛКСМ -Вазьмі Лапату, Капай Сабе Магілу.

Сёння мужыкі капаюць сабе і сваім дзецям магілу і ім за гэта плацяць. Але як яны будуць пачувацца, калі ім прапануюць стаць на край магілы і да галавы прыставяць «мірны атам»?

Беларусь цяжка хворая на ідыятызм і дыктатуру.

**БОЖА, БАРАНІ БЕЛАРУСЬ! ПРЭЧ, НЯЧЫСТАЯ АТАМНАЯ СІЛА**